


## КАЗКА СКОНЧЫЛАСЯ

***Баранавічы.*** Наведваць новыя, незнаёмыя мясціны заўсёды цікава і пазнавальна. А калі яшчэ выдаткі на паездкі аплачваюцца не са сваёй кішэні, увогуле казка. Таму і ездзілі службовыя асобы КУП «Упраўленне капітальнага будаўніцтва Баранавіцкага райвыканкама» ў Фінляндыю, Галандыю, Швецыю, ААЭ за службовы кошт.

«Навандравалі» яны такім чынам больш як на 50 мільёнаў рублёў. А яшчэ, каб весялей было падарожнічаць, атрымлівалі на працы беспрацэнтныя пазыкі і займы і «забываліся» іх вяртаць.

Зараз былы дырэктар УКБ знаходзіцца пад следствам, адпачываюць ад замежных паездак і падначаленыя...




## «ТЭЛЕПАРТАЦЫЯ»




***Маларыцкі раён.*** Чаго толькі не зробяць махляры, каб не трапіць за краты: будуць падманваць, нагаворваць адзін на аднаго, аднеквацца, спрабаваць даць хабар... Але ўсе яны не могуць параўнацца са злодзеямі, якія... бясследна зніклі.

Аўтамабіль «Нісан Патрол», загружаны сумкамі з адзеннем і абуткам на суму каля трохсот мільёнаў рублёў, супрацоўнікі фінансавай міліцыі і вайскоўцы заўважылі ў лесе каля вёскі Очына. Ні вадзіцеля, ні яго спадарожнікаў, ні тым больш неабходных дакументаў на тавар яны, між тым, не знайшлі.

Цяпер па гэтым факце вядзецца праверка, а злодзеяў, якія фантастычным чынам «тэлепартаваліся», шукаюць.

## КАБ ВЕДАЎ...

***Гомель.*** Свае ўменні чалавек можа выкарыстоўваць у розных жыццёвых сітуацыях.

Напрыклад, веды пра мэблевую фурнітуру рызыкуе прымяніць на практыцы дырэктар аднаго мясцовага ТАА. Праўда, у турме: яму пагражае да сямі гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці. А ўсё з-за таго, што ў 2010 — 2012 гг. бухгалтарскі ўлік у таварыстве вёўся з дапамогай ілжэдакументаў ад ілжэфірмаў. У выніку было «заробленае» больш за пяць мільярдаў рублёў, а дзяржава не далічылася больш чым аднаго мільярда рублёў падаткаў...




***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.



Малюнак Алега ПАПОВА.

**Міхась МІРАНОВІЧ**

# МІРАНІЗМЫ

## Ахвота і нагода

Усё жыццё
Я з імі меў нягоды:
Сабраць іх разам марыў,
Ды дарма:
Была ахвота –
Не было нагоды,
Нагода ёсць –
Ахвоты ўжо няма!..






## Убачыць Парыж — і памерці

Ёсць такія, каторым
Ахвота да смерці
Ўбачыць горад Парыж –
І спакойна памерці.
Ды жыццё мае плаўна
Бяжыць і бяжыць:
Я не бачыў Парыж –
Значыць, жыць мне і жыць!..



## Жораў у выраі

Не зрабіў я тое,
Што хацеў,
І таму мне шчасце
Толькі сніцца...
Жораў мой у вырай
Паляцеў,
І даўно ў чужых руках
Сініца...



## І не тое цягаў!..

Тлумачыў неяк
Кадравік Фядоту:
– Ты не пацягнеш
Гэтую работу...
Фядот падумаў у адказ:
«Ага!
І не такое я
Ў свой час цягаў!»



## Заможна і замужна

Мужчына хоча
Жыць заможна –
Так, менавіта,
Мае быць.
І зразумець
Жанчыну можна –
Яна замужна
Хоча жыць.





## Усе міма...

Да таго, што не шчасціць,
Я доўга звыкаў,
Хоць да гэтага звыкнуць зусім –
Немагчыма...
Шмат прыгожых жанчын
Я ў жыцці сустракаў.
Сустракаў, сустракаў,
А яны усе – міма...



## Што не збіраўся...

Час гэтак хутка
Праляцеў!..
Я ў ім
Так і не разабраўся:
Шмат не сказаў я,
Што хацеў,
І шмат сказаў,
Што не збіраўся!..



*г. Віцебск.*



Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




## Чыстая вада

Размаўляюць калегі:

– Нарэшце нашага начальніка вывелі на чыстую ваду! – радуецца адзін.

– Няўжо дзе-небудзь у прыродзе яшчэ існуе такая вада? – дзівіцца другі.




## На кірмашы

Пакупнік:
– Чаму ў вас такія кветкі дарагія?
Гандлярка:
– Бо яны ў «Чырвоную кнігу» занесены.

**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*




• Перш чым наступіць на граблі, іншы яшчэ некалькі разоў абыдзе вакол іх.

**Вясновы настрой не залежыць ад пары года.**

• Нішто часам не бывае такім адпачынным, як кукіш у кішэні.



**Дачны сезон, у адрозненне ад тэатральнага, залежыць ад надвор'я.**

• І ў пагоні за грашыма не трэба перавышаць хуткасць.

**Перш чым сесці на дыету, варта падумаць пра тое, як пасля яе ўстаць.**

**Даслаў**
**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

• Калі ў твой агарод кідаюць каменне, радуйся: у цябе вельмі багаты агарод.

**Калі ўсе дарогі вядуць да храма, то па якім бездарожжы людзі трапляюць у турму?**



• Інфляцыя – жанчына багатая, але скупая на грошы.

**Даслала Зоя НАВАЕНКА,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*




Працуй з ахвотаю у поце –
І будзе мёдам хлеб у роце.




**Мужчыну трэба жонка, браце,**
**Як пустышка — немаўляці.**

Грошы – справа нажыўная.
Той багач, хто розум мае.



**Той душою не старэе,**
**Хто гумар, жарты разумее.**

У сям'і без сваркі,
Як на небе без хмаркі.



**Пі, браток, ды ведай меру —**
**П'яніцам няма даверу.**

Жадаю ўсім шчаслівай долі,
Хай не баліць нідзе ніколі!



**Прыдумвала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.







Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

## Не вытрымаў...




Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Павел САКОВІЧ**

## *Думка ўправа, думка ўлева...*

«Вечарам я гуляла ў парку і на мяне накінуўся малады мужчына. Я думала — з добрымі намерамі, а ён адабраў гадзіннік».

«Мы з мамай абедзве трусіхі. Яна вельмі баіцца злых языкоў, а я — злых зубоў. Асабліва сабачых».

«Падчас сваркі з суседам я схапіў ружжо, каб напалохаць, а ён стаў уцякаць, як заяц. Я стрэліў услед, таму што паляўнічы сезон на зайцоў ужо быў адкрыты».

«Прадам вельмі злога сабаку. Разам з хлявом, да якога ён прывязаны».

Пытанне да прадаўца заамагазіна: «У вас ашыйнік для блох ёсць?»



*Як стала вядома...*

### З шыльдамі разабраліся

Намеснік старшыні Лагойскага райвыканкама Л. Хмуровіч уважліва прачытаў пісьмо жыхара г. Мінска Сяргея Лапцёнка наконт дваякага рэжыму працы магазіна «Пасаж» («Вожык» № 8 за 2013 год) і запэўніў, што цяпер пакупнікі не заблытаюцца ў шыльдах. Уласнік магазіна — Лагойскае райспажыўтаварыства — дэманціравала шыльду з «летнім» рэжымам працы і пакінула «зімовую»: гандлёвы аб'ект працуе з 9.00 да 21.00.




«**Мяне завуць Сняжынка.** Усё жыццё правяла на адной з вуліц Мінска. Скажу больш, я карэнная дваровая мінчанка, можа, у якім шостым ці сёмым пакаленні. І, паверце, што ў жыцці на вуліцы ёсць свае плюсы. Мы, каты, сапраўды гуляем самі па сабе, робім тое, што захочацца.

Але пры ўсёй гэтай свабодзе і незалежнасці нам таксама патрэбны ласка, пяшчота людзей. На жаль, мы вельмі рэдка атрымліваем іх. Здараецца, што, наадварот, сутыкаемся з жорсткасцю і злосцю.

Зусім нядаўна ад вялікага кахання ў мяне нарадзілася трое кацянятак. Бацька, як гэта часта бывае ў прадстаўнікоў майго віду, адразу нас пакінуў. Вось і давялося мне выхоўваць дзетак самой. Я марыла, каб іх лёс склаўся інакш, чым у мяне. Мне хацелася, каб у маіх кацянятак быў дом, клапатлівыя гаспадары і поўная міска смачнай ежы.

Забягаючы наперад, скажу, што ў маіх дзетак усё так і атрымалася. Але прапаную вам выслухаць гісторыю кожнага з іх».

«**Мяне завуць Ночка.** У мяне чорная шэрстка, ёсць некалькі белых крапінак на лапках і хвасце. Я нарадзілася на вуліцы, але не засталася там. А ўсё з-за таго, што мне, як кажуць, усміхнулася ўдача. І завуць яе – дзяўчынка Насця.

Калі я і мае брат з сястрой пачалі пакрыху вылазіць з падвала і спазнаваць навакольны свет, мяне заўважыла дзяўчынка. Кожны дзень яна прыносіла нам нешта смачнае, падкормлівала. А аднойчы прывяла за руку жанчыну. Тая паглядзела на мяне, адмоўна пахістала галавой, і яны пакрочылі дадому.

Праз два дні дзяўчынка прыйшла з мужчынам.

– Ну, паказвай, дзе тое чорнае шчасце, пра якое ты столькі расказваеш? – спытаў, пасміхаючыся, мужчына, але як толькі заўважыў мяне, спахмурнеў. – Насця, яна ж дваровая! А раптам хворая?

– Тата, усё будзе добра! Вось возьмем яе да сябе, будзе ў яе дом. І адразу ж памыем, а назаўтра да ветэрынара зводзім. Мама ж згадзілася, – залапатала Насця.

– Канешне, мама згадзілася, ты ж тры дні за ёй следам хадзіла са сваім «хачу котачку», – сказаў тата, углядаючыся ў куст, пад якім я сядзела.

– Разумееш, яе трэба было падштурхнуць да гэтага адказнага кроку. Тым больш, я абяцала, што буду глядзець за кацянём, і свае словы на вецер не кідаю, – сказала дзяўчынка і паказала мне кавалак каўбасы.

Я падбегла да Насці, асцярожна ўзяла ежу і нечакана апынулася ў дзяўчынкі на руках. З гэтага моманту і пачалося маё новае дамашняе жыццё.

Зараз у мяне ўсё добра. Ёсць тое, пра што марыла мая мама Сняжынка. І я самая шчаслівая котка на свеце».

«**А мяне завуць Філімон.** Са мной здарылася іншая гісторыя. Ішоў дождж, і я, хаваючыся ад халодных кропель, забег у пад'езд. Зашыўся ў куток, каб ніхто мяне не бачыў, і чакаў, калі скончыцца непагадзь. Але мяне ўсё ж заўважылі...

Маладая жанчына злавіла мяне і прынесла ў сваю кватэру. Я не баязлівец, але калі апынуўся ў незнаёмым месцы, адразу даў драпака і схаваўся пад канапай. Праз некаторы час пачуў голас дарослага ката:

– Вылазь, дурненькі, табе тут нічога дрэннага не зробяць. Пашчасціла табе трапіць у добрыя рукі. Дарэчы, мяне завуць Марцін.

– Гэта жанчына – удзельніца грамадскага аб'яднання дапамогі бяздомным жывёлам «ЗООшанс». Хутка знойдзе табе добрую сям'ю, будзеш катацца, як сыр у масле, – падтрымаў яго яшчэ адзін жыхар кватэры сабака Бос. – Ты нават не ўяўляеш, колькі тут такіх, як ты, пабывала! І ўсім наша дабрачынніца знайшла прытулак.

– Прабачце, але навошта яна гэта робіць? – здзіўлена спытаў я.

– Таму што добрая. Ды і павінны быць такія людзі, бо нам – кінутым, бяздомным, згубленым – патрэбна дапамога. Такім чынам наша гаспадыня паказвае прыклад тым людзям, якія абыходзяцца з намі дрэнна, – адказаў Марцін.

Амаль цэлы тыдзень мяне мылі, адкормлівалі, лячылі ад паразітаў. Потым начапілі прыгожы чырвоны бант, сфатаграфавалі і змясцілі фотаздымак у інтэрнэце на персанальным сайце аб'яднання «ЗООшанс».

Праз некалькі дзён мяне ўзяла да сябе маладая сям'я. Спадзяюся, што мы пасябруем. Прынамсі, я буду для гэтага рабіць усё магчымае».

«**Калі мае брат і сястра** кудысьці зніклі, я, Ірыска, пачала іх шукаць, але безвынікова – іх нідзе не было. Зручна ўладкаваўшыся на лаўцы каля дома, я заснула. Прачнулася ад таго, што мяне трымаў за шкірку мужчына:

– Няма чаго табе тут бадзяцца. Прападзеш. Адвязу цябе ў прытулак «Эгида».

Так я і апынулася сярод такіх жа катоў, якія не мелі гаспадароў ці згубілі іх. Мяне пасялілі ў адной клетцы з трыма кацянятамі, недзе такога ж узросту, як і я.

– О, зноў новенькую прывезлі! А яна сімпатычная. Гэта добра, можа, пашчасціць і забярэ хто, – сказаў белы кот з суседняй клеткі.

– А калі не пашчасціць?

– Могуць усыпіць, напрыклад, – падала голас чорная котка, што сядзела ў клетцы насупраць.

– А як гэта? – не зразумела я.

– Вельмі проста – табе зробяць укол, і больш ты ніколі не ўбачыш гэты свет, – патлумачыла котка. – Таму глядзі, рабі ўсё магчымае, каб спадабацца людзям, якія прыходзяць сюды па гадаванцаў.

– Але не перажывай, кормяць тут добра, умовы таксама нядрэнныя, ды і з намі сумаваць не будзеш, – падтрымаў мяне белы кот, калі заўважыў, што я спахмурнела.

Міналі дні. Я сумавала, але спадзявалася на лепшае. Бачыла, як прыходзілі людзі, забіралі маіх суседзяў, а мне заставалася толькі чакаць. І вось, калі я зусім страціла надзею, прыйшоў мужчына, які некалі прынёс мяне сюды.

– Мабыць, лёс у цябе такі. Думаю, дай заеду, можа, яшчэ ніхто не забраў. А ты і сапраўды яшчэ тут. Не хвалюйся, завязу цябе да маці ў вёску, якраз у мяне котачку прасіла, – сказаў мужчына, убачыўшы мяне ў куточку клеткі.

Так я апынулася ў вёсцы ў цудоўнай жанчыны. Тут у маім распараджэнні не цесная кватэра, а цэлая хата, вялікі двор і лес, поле, луг...»

«Вось так склаўся лёс маіх дзетак. Я лічу, што ім неверагодна пашчасціла сустрэць такіх добрых людзей, якія не пакінулі іх на вуліцы. А што робіце вы, калі бачыце на вуліцы нас, бяздомных?..»



**Сняжынку і яе дзетак выслухала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

## *Казка нанач*




Комікс Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

# ДЫЯЛОГІ І МАНАЛОГІ

## Кандуктарка распавядае

– Фраза, прамоўленая адной з пасажырак: «Скажу табе па сакрэце», спыняе на 15 хвілін размовы ўсіх астатніх пасажыраў.



## Разбярэцца

– Як лепш прыгатаваць перапёлку?
– А колькі іх у цябе?
– Адна.
– Аддай кату, ён разбярэцца!



## І адбудзецца сустрэча

– Ну, і якія планы?
– Ды думаю ў запой сысці...
– О, перадавай прывітанне майму суседу: ён там жыве!




## Джып і яр...

На ўскраіне вёсачкі па вуліцы паўзе вялікі джып і міргае фарамі. Праязджае апошнюю хату, упіраецца ў плот, за якім глыбокі яр – і замірае...



Паблізу сядзяць дзве бабулькі ў куфайках.
– Што гэта, Нічыпараўна?
– Гэта яшчэ адзін з гэтым самым – з навігатарам, Сямёнаўна!

## Зубы, але не мудрасці

– Якія зубы растуць апошнімі?
– Залатыя.



## І ніхто не ўбачыць!

На прахадной.
– Гэта сакрэтны аб'ект!
– Я да мамы...
– Праходзь хуценька!




## Госці

Госці ў доме.
Гаспадары:
– Як шкада, што вы нарэшце сыходзіце!..



**Падслухаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*



Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Мімаходзь

*Ісціна – гэта тое, у чым ты здолеў пераканаць жанчыну. Ісціна ў апошняй інстанцыі – гэта тое, у чым жанчына пераканала цябе. А сапраўдная ісціна – гэта тое, у чым яна пераканала сябе сама!*




**Заўважыць Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*






*Нядаўна пабачыла свет новая кніга нашага вядомага гумарыста і сатырыка Міхася СЛІВЫ. Зборнік празаічных мініяцюр пад назвай «Клюква по знакомству» (на рускай мове) выйшаў у сталічным выдавецтве «Чатыры чвэрці».*

*«Візітная картка» Міхася Слівы – мініяцюра. Звычайна гэта дыялог, нібы падслуханы з натуры, лаканічны, знешне просты, шчыры і заўсёды з нечаканай развязкай. Чытач абавязкова ўсміхнецца, зарагоча, ды задумаецца: а ці не падобны ён часам на некага з герояў? І гэта нядзіўна, бо сюжэты і характары ўзяты з самога жыцця, а не штучна прыдуманыя. Трэба толькі ўмець прыкмеціць іх пільным вокам гумарыста, а не прайсці міма. М. Сліву гэта ўдаецца: ён любіць гумар, жыццё, людзей і – піша, піша, піша...*

*Віншуем нашага шчырага сябра, даўняга вожыкаўца, таленавітага пісьменніка з выхадам новай кнігі і жадаем далейшых творчых поспехаў. Ну, а пакуль перагорнем некаторыя яе старонкі...*

**Міхась СЛІВА**

# «ЖУРАВІНЫ ПА ЗНАЁМСТВЕ»

## На паўстаўкі

– Чаму вы прапускаеце так многа памылак? – пытаюцца ў карэктара.
– Я ж працую толькі на паўстаўкі! – апраўдваецца тая.

## Спачатку сама выпі...

Жонка распякае мужа:
– Ты як вып'еш, дык пачынаеш несці лухту!
– Яшчэ не вядома, што б гаварыла ты, калі б выпіла столькі, колькі я! – адказвае муж.

## У рыбакоў усялякае бывае

Рыбак расказвае знаёмаму:
– Восенню лавіў рыбу, дык лодка перакулілася і засталася зімаваць у вадзе. Вясной дастаў, а матор – пуф-пуф-пуф – яшчэ працуе!

## Цікаўны

– Пятровіч, у цябе такія вялікія вусы. Яны не перашкаджаюць табе есці ці піць?
– Пачастуй – убачыш!

## «Пашкадаваў» жонку

У судзе слухаецца справа аб разводзе. Муж тлумачыць:
– Я прыйшоў дадому позна, жонка ўжо спала. Я не захацеў яе будзіць і пастукаў да суседкі. А раніцай жонка ўчыніла скандал...

## Адналюбка

– Як завуць новага Наташынага мужа?
– Сяргей.
– Дык яна ж – адналюбка! Гэта ўжо трэці муж і зноў Сяргей!












Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Каб і хацеў — не прыдумаеш

«Прадаецца казёл. Узрост адзін год, працаздольны».

*(З аб'явы).*

«Не прыцягваўся, не ўдзельнічаў, не працаваў...»

*(З аўтабіяграфіі).*

«Я з'яўляюся начальнікам аддзела, якім я паспяхова кірую».

«Нават сляза ў мяне праслязілася».

«Я ўжо год працую — і, як вынік, лазні да гэтай пары няма».

*(З выступленняў).*

**Запісаў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*

## Мініяцюры

### Новы шлюб

Ён, яна, каханне, дзеці...
Так здаўна было на свеце.
Шлюб з'явіўся аднаполы —
Нешта бусел невясёлы...

### «Экстрым»

Ля метро гандлюе Клава.
Што ні дзень, як тут аблава.
Рынак ёсць, і не адзін,
Ды... не той адрэналін!

### «Папяровы» бетон

У цеснаце — як у няволі.
Кватэру пабудую ў долі!
Праекты, акты, дагаворы...
Дом не расце на тым «растворы».

**Валянцін ШВЕДАЎ,**
*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.







Малюнкі Руслана БОГУША.



# Інтэрнэт: жартуе

## Анекдоты

– Гатова, начальнік!
– Што, зрабіў?
– Не, зламаў!



Муж з жонкай вандруюць на борце шыкоўнага парахода. Жонка, каб разгледзець рыбу ў вадзе, перагнулася цераз борт. Паблізу праходзіць капітан і перасцерагае:

– Асцярожней, мадам, вы можаце зваліцца ў ваду.

– Чаго вы тут ходзіце і ўказваеце? – абураецца муж. – Гэта мая жонка ці ваша?!

### Аб'ява

Прадаецца двухспальны ложак. З аднаго боку амаль не выкарыстоўваўся.








Размова ў пад'ездзе:

– У нашых няшчасцях вінаватыя яўрэі.

– І веласіпедысты, – уключыўся ў размову стары яўрэй.

– Чаму веласіпедысты?

– А чаму яўрэі?


– Ну, дай панасіць! Калі ласка!..

## Людзі кажуць...

Злодзей-«дамушнік», які захраснуў у фортцы, не змог даходліва растлумачыць міліцыі, дзе яго пабілі: на вуліцы ці дома.

* * *

Учора «Лада Каліна» ўрэзалася ў «Порш Каен». Вадзіцель «Каліны» хутка знік з месца злачынства ў багажніку «Каена».

* * *

Кожны, хто заканчвае фінансавы ўніверсітэт, дае клятву бюракрата.

* * *

Хочаш дапамагчы дзіцяці – зрабі разам з ім. Хочаш дапамагчы даросламу – растлумач, як зрабіць. Хочаш дапамагчы старому – зрабі за яго. Хочаш дапамагчы майстру – адыдзі і не перашкаджай. Хочаш дапамагчы дурню – сам дурань.





– Дзяўчына, што вы так плачаце?

– У мяне сумку ўкралі...

– Там, мабыць, былі каштоўныя рэчы?

– Не.

– Дык чаму вы тады плачаце?

– У ёй такі беспарадак! Мне так сорамна!..

…ўвесь свет!

## Загадкі

1. У некаторых месяцах 30 дзён, у некаторых – 31. У колькіх месяцах у годзе 28 дзён?

2. Што можна бачыць з заплюшчанымі вачамі?

3. Што ў агні не гарыць і ў вадзе не тоне?

4. Што неабходна рабіць, калі бачыш зялёнага чалавечка?

5. Назавіце пяць дзён, не называючы лічбаў (1, 2, 3..) і назваў дзён (панядзелак, аўторак, серада...)?

6. З якога посуду нельга нічога з'есці?

7. На якое пытанне нельга адказаць «не»?

8. Колькі будзе 2+2×2?












## Анекдоты

☺ ☺ ☺

– Абрам, я ўжо галаву зламала! У адных – вяселле, у другіх – пахаванне. Усё ў адзін дзень. Што выбіраем?
– Пахаванне.
– Чаму?
– Усё тое ж самае, толькі без падарункаў.

☺ ☺ ☺

– Куды вы ездзілі адпачываць мінулым летам?
– У Бадэн-Бадэн. А вы?
– Як заўсёды, у Гомель-Гомель.

☺ ☺ ☺

– На выхадных халтурыў – пераклады для студэнтаў рабіў з нямецкай мовы.
– Як? Ты ж англійскую вучыў!
– Гавару ж – халтурыў.

☺ ☺ ☺

– Дарагая, а дзе твой «мерсэдэс»?
– У аўтасэрвісе.
– Зноў разбіла?
– Не-не, проста зламаўся.
– А што зламалася?
– Бампер глухне, капот крыху і крыло барахліць.

**Адгадкі:**

**1.** Ва ўсіх месяцах. **2.** Сны. **3.** Лёд. **4.** Пераходзіць вуліцу (гэта малюнак на зялёным сігнале святлафора). **5.** Пазаўчора, учора, сёння, заўтра, паслязаўтра. **6.** З пустога. **7.** «Ты жывы?» **8.** Шэсць.

*Фотаздымкі і анекдоты выкарыстаны з інтэрнэта.*




## ШТО ЛЕПШ...

– Лепей конік, чым машына, –
Я пачула ад мужчыны. –
Калі нешта выбіраць,
Лепш куды каня купляць.

Вунь бензін жа даражае,
Кошт аўса аперажае.
Не баліць і галава –
Добра ў нас расце трава!

Дзе не пройдзе іншамарка,
Праімчыць там конік шпарка.
Можна й чарку ўзяць самому,
Конік давязе дадому!..

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*




### Усё разлічана

– Калі твой з рыбалкі прыходзіць дадому?
– Ды ў сем дваццаць пяць,
як заўсёды, вядома.
– Чаму ж ён вяртаецца надта ўжо рана?
– Бо ў сем зачыняецца рыбная крама.

### Філосафы і прагматык

– Пусты напалавіну коўш з віном пакуль.
– Ён поўны напалову ўсё адно!..
Прыйшоў прагматык нечакана з ніадкуль
І тут жа выпіў грэшнае віно.

### Трэба звечара

– Вось зранку пагаліўся – лёгка стала.
І зноўку я, нібыта малады, –
Сказаў дзядок.
Бабулька не змаўчала:
– Галіўся б ты ўжо звечара тады.

**Аляксандр ЛОГА,**
*г. Маладзечна.*

# «ДЫК Я Ж ЯГО ЛЯСКОТКАЙ!..»

*Быль*

Гэта гісторыя сапраўды здарылася ў адной вёсцы напярэдадні Каляд. Падрабязныя дэталі таго, што і як адбывалася, з часам згубіліся, але застаўся дакладны выраз: «Дык я ж яго ляскоткай!..»

Словам, паклікала аднойчы гаспадыня знаёмых мужчын, каб тыя забілі ёй парсюка. Чаму б не дапамагчы адзінокай жанчыне? Тым больш, што справа гэтая заўсёды завяршаецца (а часта і пачынаецца) чаркай і скваркай.

Так было і ў гэты раз. Мужчыны кульнулі для храбрасці па кілішку, прыкусілі і рушылі да хлеўчука. А калі адчынілі дзверы, то ад здзіўлення на некалькі хвілін аслупянелі: у хлеўчуку рохкаў парсюк памерам, не раўнуючы, з маладога бычка. Мужчыны асцярожна зачынілі дзверы, закурылі...

І тады адзін з іх, Пятровіч, рашуча сказаў, як адрэзаў:

– Дык я ж яго ляскоткай!..

Прапанова падалася даволі сумніўнай, бо такое стварэнне і каб доўбняю аглушыць, трэба мець сілу волата. (Пятровіч жа, мякка кажучы, росту быў кату па калена.) Але пярэчыць не сталі: ляскоткай дык ляскоткай.

Добра патузаліся, пакуль прымусілі вялізнага парсюка пакінуць цеснаваты хляўчук і выйсці на двор у загарадку. Тым часам Пятровіч прынёс з дрывотні ляскотку і, нібыта тарэадор, застаўся адзін на адзін з жывёлінай. Крыху пастаяў, а затым узняў над свінячай галавой бярозавую прыладу, замахнуўся і...

Цішыню наваколля скалануў прарэзлівы свінячы віск і трэск жэрдак загарадкі. Ніхто з мужчын нават не паспеў зварухнуцца з месца, калі парсюк, як шалёны, ірвануў з усіх чатырох капытоў і памчаўся ў кірунку ракі, дзе чорнай плямай зеўрала палонка. У імгненне вока жывёліна апынулася на лёдзе. Апошняе, што ўбачылі мужчыны, – гэта высокія пырскі вады...

Зноў запанавала цішыня. Толькі над Пятровічам клубілася пара, быццам ён сам толькі што імчаўся з шалёным свінячым віскатам на раку. У руках ён трымаў злашчасную ляскотку.

Што і як было далей – гісторыя маўчыць. Парсюка-тапельца, кажуць, нібыта знайшлі вясной, калі растаў лёд. А вось Пятровіч больш на забоіны – ні нагой...

**Аляксандр МАТОШКА,**
*Расонскі раён,*
*в. Янкавічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны ГАРБАЧУК.

# Канцэрт па заяўках



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

## Як лапцем па вадзе...

Куплю аўтамабіль за 300 у. а. у любым стане.

Прадам парасят дамашніх і в’етнамскай віслабрухай пароды.

*(З газет.)*

**Выпісаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.







*Людзі чамусьці саромеюцца беднасці, у якой невінаватыя, і не саромеюцца багацця, якога не заслугоўваюць.*

Канстанцін Кушнер
(рускі гісторык, педагог)




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

# Навіны з МУС: матай на вус...

## Застылыя імгненні прыгажосці

***Маларыцкі раён.*** Вельмі часта чалавек хоча спыніць імгненне, якое палепшыла яго настрой, прымусіла паглядзець на навакольны свет пад іншым, больш «рознакаляровым» вуглом. Гэтаму можа садзейнічаць што заўгодна – прыгожая карціна, смачная ежа, палёт матылька...

А вось жыхар вёскі Хацiслаў вырашыў захаваць момант прыгажосці з дапамогай штучных кветак. Калі яго затрымалі, у машыне «Фольксваген Пасат» знайшлі без неабходных дакументаў шэсць вялізных сумак з «застылымі імгненнямі прыгажосці» на агульную суму 60 мільёнаў рублёў.

Зараз па гэтым факце вядзецца праверка, а правапарушальнік шукае іншыя імгненні прыгажосці.

## Самая кепская прафесія

***Магілёў.*** Яшчэ булгакаўскі кот Бегемот заўважыў, што горш за работу кандуктара няма нічога на свеце. У гэтым упэўнілася жанчына-кандуктар, якая працавала ў аўтобусе № 28. На яе без аніякай прычыны накінуўся з кулакамі нецвярозы 46-гадовы мясцовы жыхар. Невядома, чым бы гэта скончылася, каб не вадзіцель і пасажыры, якія затрымалі дэбашыра да прыезду міліцыі.

На аматара памахаць кулакамі без дай прычыны завялі крымінальную справу. Ён можа атрымаць пакаранне ў выглядзе грамадскіх работ ці зняволення да трох гадоў. А лепш за ўсё было б, каб ён на ўласнай скуры адчуў, што гэта значыць – быць кандуктарам.

## Выпадковасці не выпадковыя

***Мінск.*** Лёс сутыкае нас з рознымі людзьмі. І кожны з іх пакідае свой след у нашым жыцці. І часта гэты «адбітак» носіць надзвычай павучальны характар. Як, напрыклад, адбылося ў наступнай гісторыі.

Адзін мінчанін выпадкова пазнаёміўся на дыскатэцы з двума хлопцамі з Бабруйска. Адзначыўшы з імі знаёмства, ён пахваліўся, што купіў нядаўна машыну «Опель-Інсігнія», ды і ўвогуле з грашамі не мае праблем. Хлопцы пераміргнуліся, выбралі зручны момант і – сцягнулі ключы ад кватэры мінчаніна. І пакуль адзін з іх усё адзначаў знаёмства, другі ўкраў з кватэры каштоўныя рэчы, ключы і дакументы ад аўто, а пазней – і саму машыну.

Новае знаёмства дорага каштавала мінчаніну: украдзенае пацягнула на суму больш за 190 мільёнаў рублёў. І толькі дзякуючы напружанай працы аператыўнікаў удалося злавіць злодзеяў і вярнуць гаспадару страчаную маёмасць.

Відаць, цяпер мінчанін будзе больш уважліва адносіцца да выпадковых знаёмстваў і да таго, што, дзе і каму варта гаварыць.

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

Сямейныя людзі




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




КАПЛІЦА — рэдкі дождж.
САДЖАЛКА — суддзя.
СТАРЫЦА — доўгажыхарка.
СЦЯГНЯК — злодзей.

**Даслаў Мікола НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*

АБАРАНАК — малады баранчык.
БАЙКЕР — аматар расказваць байкі.
ВОСТРАЎ — шмат страў.
ГАРБАЦІЦЦА — піць гарбату.
ДРОБЯЗЬ — дробны язь.
ЗБІЦЕНЬ — баксёр на рынгу.
КУРКУМА — кума курыльшчыка.
СКРЫПЕЦЬ — іграць на скрыпцы.
ТРАВІЦЬ — касіць траву.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**




● Сапраўдны артыст — той, хто і па-за сцэнай не здымае маскі.

● Ёсць і такія грызуны, што беспакарана крадуць бясплатны сыр з мышаловак.



● Ветраныя млыны вялікіх дзівакоў верцяцца і без ветру.

● Сучаснае мастацтва дзеліцца на класіку і папсу. Справа за гібрыдам: класічнай папсой.



● Наўрад ці прыгажосць можа ўратаваць свет: сёння ёй самой трэба ратавацца.

● У смутны час і бяздарнасць прэтэндуе на элітарнасць.





Малюнак Алега ПАПОВА.

## Дажартаваўся...




Комікс Аляксандра ЦІХАНАВА.




*Свет не змяняецца ні да горшага, ні да лепшага. Проста зямля круціцца, і ўсё ідзе сваім парадкам.*

Фінлі Дан (амерыканскі пісьменнік-гумарыст, публіцыст)




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




### Аркадзь НАФРАНОВІЧ

#### Адзінства прыроды

Нап'ецца Гарась –
І ў гразь, як карась.

*Пастаўскі раён,*
*в. Камаі.*

### Міхась ДУБОВІК

#### Аднабокі позірк

Пры стрэчы
з кожнай маладзіцай
Ён аглядаў памер спадніцы.

#### Сумленне замінае

Спрабую жыць я, як і ўсе –
Грызе сумленне пакрысе.

*Бярэзінскі раён,*
*в. Арэшкавічы.*




Валянціна
ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

## Мышкі і кніжка



Раз дапытлівыя мышкі
Пачытаць рашылі кніжку.
І так шчыра узяліся,
Што шматочкі засталіся
Ад цікавай гэтай кніжкі.
Ці ж паразумнелі мышкі?

## Камарыкі танцуюць



Танчаць цэлаю сям'ёю.
Што сям'ёй? Гурмою, роем!
Пад матыў камарынскі
Мак таўкуць камарыкі.
І танюткa напяваюць –
Будзе заўтра цёпла, знаюць.
Можа й, наваражаць
Нам дзянёк пагожы?

## Вуж



У траве скруціўся вуж:
– Напалохаю, не руш!
Хоць і сам баюся...
А што, калі бусел
З дзюбай доўгай, моцнай
Мне закрые сонца,
Ўбачыць беднага мяне,
Ўхопіць хутка і – каўтне?..
Каб на вочы не трапляцца,
Мушу хуценька хавацца.

*г. Валожын.*

## Прыхільнікі таленту










Комікс Паўла ГАРАДЦОВА.




## Каб не ўцяклі

Паўлік у вёсцы на канікулах. Убачыў бабулю на агародзе, калі тая падвязвала памідоры, і пытаецца:

– Ты іх вяжаш, як дзед каня, каб не ўцяклі?

## Хітруха

Дзіяна просіць у бабулі малін.

– Падстаўляй далонькі, – кажа тая, – зараз я табе іх насыплю.

– Не, – не згаджаецца малая, – давай я іх сама насыплю ў твае прыгаршчы, а потым забяру з сабой!..



**Падслухаў Віктар РЭЧЫЦ,**
*г. Івацэвічы.*

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

# Загадкі-амонімы

Ён бадзяецца
Ў балоце
І хаваецца
Ў чароце,
Яго ўбачыш
За вярсту,
Ён ля студні
На пасту.

(Жураўель.)

* * *

Яна красуе
На сасне,
Гарцуе
Ў звера
На спіне.
Яна у швачкі
Ці ў шаўца
Танцуе танцы
Без канца.

Яна і зброя
Ў медсястры,
Калі назначаць
Дактары.

(Іголка.)

* * *

Пакой
Асвятляе
І святло
Вымярае.
Ёсць
У машыне
І ў
Медыцыне.
А на
Каштане –
Кветкаю
Стане.

(Свечка.)

* * *

Яе
У шахце
Здабываюць
І як прыправу
Ужываюць.
Пачуць
Яе ты зможаш –
Гэта нота
І для трубы,
І для фагота.
У Перу
(Вядомая
Дзяржава)
Яна
Манета
Вартасцю
У сто
Сентава.

(Соль.)



Адшукай трох аднолькавых матылькоў.




Адказ: 2,5,6.

Задачкі прыдумаў і намаляваў
Андрэй СКРЫННІК.

Знайдзі, да якога нумара цягнецца паста з цюбіка.




Адказ: 5.




На ўроку малявання адзін вучань звяртаецца да суседа па парце:

– Выдатна ты намаляваў! У мяне ажно апетыт разгуляўся!

– Апетыт? Ад усходу сонца?

– Гэта ж трэба! А я думаў, што ты намаляваў яечню!

☺ ☺ ☺

– Пеця, колькі ў вашым класе выдатнікаў?

– Калі не лічыць мяне, то чатыры.

– А хіба ты выдатнік?

– Не. Я ж так і сказаў: калі не лічыць мяне!

☺ ☺ ☺

Маладая настаўніца скардзіцца сваёй сяброўцы:

– Адзін вучань так мяне замучыў: шуміць, хуліганіць, зрывае ўрокі!

– Ну можа, у яго ёсць хоць адна станоўчая якасць?

– На жаль, ёсць: ён не прапускае заняткі...

☺ ☺ ☺

Сын паказвае бацьку адзнакі за чвэрць. Па ўсіх прадметах – пяцёркі і чацвёркі, а па спевах – дзесяць. Бацька ўздыхае: «Гэты невук яшчэ спявае!»

☺ ☺ ☺

– Ты раней дзе працавала?

– У школе, настаўніцай іспанскай мовы.

– Ты ведаеш іспанскую?

– Не. Таму праз год я вырашыла звольніцца.




## АСЦЯРОЖНЫ ДАКЛАДЧЫК

Два гады пан жыў у горадзе, а сям'я яго — жонка і дочкі — аставаліся дома, у маёнтку. Без пана ў двары многа парабілася нядобрага. Сям'я паслала к яму ў горад чалавека пазнаёміць і наказала яму, каб ён зразу дужа не пужаў пана, а расказаў бы ўсё памаленьку. Ён так і зрабіў. Пан як запытаўся ў яго:

— Ну, што чуваць у маёнтку, ці ўсё добра?

Той кажа:

— А хвала богу ўсё, толькі ножык садовы панскі зусім затупілі.

— Чаму?

— Гэта як скуру з вогіра здзіралі, ужо тады ступілі.

— Чы ж мой вогір паў?

— Ага! Ён вельмі падарваўся, як праводзілі хаваць паню, дык іздох.

— Ай, што ты кажаш!

— А вечны пакой ёй, яна памерла, як двор з палацам гарэлі, надта спужалася, муся.

Тут ужо пан зусім абмярцвеў. Тады чалавек, каб успакоіць яго трохі, кажа:

— Не бядуй, пан, не бядуй! Па смутку і радасць будзе: паненка дачушку радзіла — гэта яна дабыла, як афіцэры стаялі.



## ЯК ЛЁКАЙ ПАНА АШУКАЎ

Адзін стары пан меў маладую жонку. Яна, вядома, маладая, знеслася з лёкаем і добра з ім жыла. Аж аднаго разу яна яму кажа:

— Як ты мяне пацалуеш у прысутнасці пана, а пан не загневаецца, то дам табе сто рублёў, гадзіннік і новае адзенне.



Так ён кажа:

— Добра, можна і так зрабіць.

Ну, так як пан прыехаў, прыходзіць ён да пакоя і ўсё смяецца:

— А чаго ты смяешся?

— Ай, не скажу пры пані!

Пана цікавасць узяла, так гаворыць:

— Выйдзь, душка.

Тады ён кажа:

— А то ў вашым акне такая шыба, што як знадворку глядзіш, то ўсё здаецца, што пан паню цалуе.

— Чы то можа быць?

— Дапраўды, паночку. Няхай пан сам пабачыць.

Пан пайшоў, аж пані ўвайшла, лёкай да яе і давай... цалаваць.

Пан праз акно відзіць — праўда: лёкай паню... цалуе!

Так пан кажа:

— Ідзі мне зараз і пабі то акно!

Так ён пайшоў, як дасць кіем па акне, так і пасыпалася. Але такі ад пані сто рублёў выйграў, бо пан углядаўся, а ён з паняю цалаваўся.

## ХЛАПЧУК І ЎРАДНІК

Хлапчук вёў на вяроўцы цяля, якое кідалася ва ўсе бакі. А тут якраз ураднік праязджаў.

— Ты чаму перада мною шапкі не знімаеш, хам?! — закрычаў ён на хлопца.

— Калі ж мае рукі заняты, пане ўраднік. Злезьце, калі ласка, з воза, патрымайце цяля, а я шапку зніму.



*«На вясёлай хвалі» (беларускія народныя жарты, анекдоты, гумарэскі, смяшынкі), Мн., 1988 г.*




**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## КАБ НЕ ПАРУШЫЦЬ ПРЫСЯГУ

Пятрок да кума пасля п'янкі
Забег, каб той «паспагадаў»,
І дзіву даўся:
Кум са шклянкі
Штось праз саломіну смактаў.

Над чым жа ён, цікава, чахне?
Нюхнуў паветра наўздагад
І ледзь не ўмлеў:
Гарэлкай пахне!
Чаму ж не п'е, блазнуе, гад?

– Ты што, здурнеў?
Гарэлку смокчаш,
Як пойла ў бары маладняк!
Ці выглядаць культурным хочаш,
Ці гэтак – лепшая на смак?

– Прысягу боязна парушыць,
Якую жонцы ўчора даў.
Цяпер трымацца слова мушу,
Рабіць усё, як прысягаў.

Хоць дужа цягне,
Хоць спакусна,
Ды прысягнуў – сам Божа чуў,
Што я ў гарэлку нават вусны
Ніколі больш не памачу!

– І ты надумаў праз салому
Цадзіць святцейшую слязу?
Дай мне глынуць,
Табе ж я з дому
Шланг, калі хочаш, прынясу!





Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Анекдоты

– Усё, хопіць! Кідаю піць. Заўтра ж!

– Малайчына! Тваю рашучасць трэба абавязкова абмыць!

☺ ☺ ☺

Сустракаюцца двое сяброў. Адзін пытае ў другога:

– Дзе ты так набраўся? Ад цябе за кіламетр нясе!

– Ды вось у лазню хадзіў.

– Ну, тады з лёгкім перагарам!

☺ ☺ ☺

Размаўляюць два п'яніцы:

– Вось скажы, Сярога, што ў нас з табой за адна думка?

– Чаму адна? А закусіць!





Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



— Гэта студэнт аграакадэміі...






Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Знарок не прыдумаеш

☺ Задні язык прыкусіў.

Вока бачыць, а глядзець не магу.

☺ Вывіхнула пярэднюю нагу.

Баліць кармавы зуб.

☺ Ные цэнтральная нырка.

Пракалоў вялікую ступню нагі.

☺ Пабіла пярэдні локаць.

Валасы не выпадаюць, а лысею.



☺ Храпу толькі, калі сплю.

Пухнуць ніжнія суставы.

☺ Села скула на пярэднім калене.

Не чую бакавым вухам.

☺ Ногі сталі ў бакі разбягацца.

*(Са скаргаў хворых на прыёме ва ўрачоў.)*

**Падслухаў і запісаў**
**Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць, г. п. Акцябрскі.*

## Афарызм

*У жыцці заўсёды ёсць шырокае поле для дзейнасці, але часам хочацца маленькай палянкі для адпачынку.*

Стас Янкоўскі (расійскі інфарматык, гумарыст)